# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 20 (533) Год XI 15 МАЯ 1966 г. Цана 60 гр

# ПРА НЕДАСКАЗАНАЕ ПАЭТАМ

Едзем утраіх: паэт Алесь Барскі, паэт Віктар Швед, і я. Уласціва едзе іх двух, Барскі і Швед, а я — толькі іх безасабовы цень, якога істота і роля зводзіцца да журналісцкага аднатавання гэтай падзеі.

Падзея, уласна кажучы, дробная, беларускія паэты, якія пражываюць у Польшчы, едуць на сустрэчы з вучнямі пачатковых школ і насельніцтвам, сустрэчы, якіх адбылося ўжо ў апошніх гадах некалькі соцен. Менавіта таму, што сустрэчы гэтыя адбываюцца часта — заслугоўваюць на асаблівае аднатаванне.

Едзем у Сакольскі павет. Затрымліваемся ў вёсцы Сакалдзе, па дарозе ў Крынкі. У Сакалдзе не вучаць беларускай мовы, хаця ў вёсцы людзі гавораць па-беларуску. Дзеці збіраюцца ў прыгожай святліцы прыгожай сакалдоўскай школы. Дзеці гавораць у школе выключна на польскай мове. Паэт Алесь Барскі пытае іх па-беларуску:

— Ці вы, дзеткі, разумееце мяне, калі я да вас гавару па-беларуску?

— Так, — адказваюць дзеці, і на тварах іх малююцца разбалаваныя ўхмылкі. Відаць гук гэтай мовы, якую чуюць ад старэйшых толькі пры гаршках і ў гумне — у гэтай прыгожай школьнай абстаноўцы смешыць іх і цешыць.

Паэты чытаюць дзецям свае вершы: Швед — дзіцячыя, Барскі — са зборніка «Белавежскія матывы». Потым просяць дзяцей даваць запытанні. Запытанні дзяцей — простыя, нясмелыя, наіўныя, адказы паэтаў — доўгія, абстрактныя і... нуднаватыя. На заканчэнне дзеці б'юць доўга з усяе сілы ў далоні, і такім чынам паэты выходзяць са школьнай святліцы ў суправаджэнні «бурных апладысментаў».

Паэты ад'язджаюць. Дзецям застаюцца ўражанні з сустрэчы. Ці ўдалося паэтам распаліць у сакалдоўскіх дзяцей хаця іскру зацікаўлення да мовы іх бацькоў? Калі так — вялікая падзяка паэтам.

У Азяранах дзеці нічога не пытаюцца паэтаў. Прыехалі яны сюды назмярканні, дзеці сабраліся ў мясцовую школу і глядзяць на паэтаў акружаных нафтавымі лямпамі. Паэты чытаюць вершы. Дзеці сядзяць спакойна, як закамянелыя. Не рэагуюць нават на найбольш «смешныя» дзіцячыя вершы Віктара Шведа. Хто ж яго ведае, ці

**(Працяг на стар. 4)**



# ГАЙНАЎСКІ ЮБІЛЕЙ

Завадскі гудок, як штодзень, кліча на работу. Звыш тысячны калектыў **Гайнаўскага прадпрыемства дрэваапрацоўчага промыслу імя Юльяна Мархлеўскага** пераліваецца праз вароты, і рабочыя займаюць свае месцы ля станкоў. Ідзе звычайная праца. Але ў прадпрыемстве адчуваецца нейкае хваляванне. Рабочыя спадзяюцца спецыяльнай прэміі, дырэкцыя заказала сцяг і наводзіць апошнія парадкі.

Пяцідзесятая гадавіна прадпрыемства! Значыць, яго дата заснавання 1916 год. Быў гэта год ваенны. Фронт надоўга замацаваўся недзе аж пад Мінскам. А тут у Гайнаўцы гаспадарылі немцы. Спакусіла іх багацце Белавежскай пушчы. Спяшаліся, каб больш, каб хутчэй. Таму пабудавалі сетку вузкакалеек, хімічны завод і тартак. Аграмадны тартак. На 12 лесапільных рам (тракаў). Знішчылі ў пушчы звыш 2,5 мільёнаў кубічных метраў драўніны. Такі быў пачатак. Гайнаўка тады напаміналa звычайную вёску.

Яе гісторыю неабавязкова аднак шукаць у падручніках. Жывуць і яшчэ працуюць на старым месцы людзі, якія з уласнага рабочага вопыту памятаюць тамтэйшы час. Вось Уладзіслаў Сокул. Працу ў Гайнаўскім тартаку распачаў дваццацігадовым юнаком у студзені 1921 года. Там ужо працаваў яго бацька, а дзед быў лесапільшчыкам на Келеччыне. — У 1921 годзе, — успамінае, — у тартаку працавала каля 30 рабочых. Фармальна ўласнікам яго была дзяржава, але ў сапраўднасці знаходзіўся ён у руках графа Забела. Потым некалькі год гаспадарылі ў тартаку англічане, і ад 1925 года Гайнаўскі тартак — ужо шмат разбудаваны — знайшоўся пад праўленнем спецыяльна створанай Дырэкцыі дзяржаўных лясоў. Я цэлы час працаваў пры траках. Праца была сезонная. Па тры- чатыры месяцы ў год тартак стаяў, і рабочыя ішлі на зялёную траву.

45 год бесперабойнай працы на адным месцы. Гэта не часта бывае. Пытаю, што яго так трымала ў Гайнаўцы.

— На адным месцы і камень мохам абрастае, — па філасофску адказвае Уладзіслаў Сокул, а пасля дабаўляе: — І мой сын таксама ад 1944 года працуе тут пры траках. Толькі ўнучка, — усміхаецца, — якой цяпер 15 год, хіба ўжо не захоча пайсці следам прадзеда.

— Што вам наймацней убілася ў памяць, што вы найчасцей успамінаеце з пражытага ў тартаку? — дапытваўся я. — Безумоўна — змаганні рабочых за свае правы, — адказвае мой субяседнік пыхкаючы дымам «Спорта». — Вы ж чулі, што Гайнаўку «чырвонай» называлі. А я ніколі не забуду, як у 1925 годзе арганізавалі мы Гайнаўскі камітэт Польскай сацыялістычнай партыі, як праводзілі забастоўкі, агітавалі да выбараў, зуб за зуб браліся з пілсудчыкамі; не забуду палымяных прамоў сацыялістычнага пасла Дзібуа. Наша партыя была яўнай, і камуністы гэта выкарыстоўвалі для сваёй работы. А пазней — 17 ліпеня 1944 года — не забуду, як мы гасілі пажар, які нам аставілі адступаючыя гітлераўцы. Нямнога ўдалося ўратаваць з былога тартака, але ўсё ж удалося. Не прайшло і двух месяцаў, а я ўжо зноў стаяў за сваім тракам.

Уладзіслаў Сокул з'яўляецца цяпер кіраўніком цэха дабавачнай прадукцыі. Гавару яшчэ з брыгадзірам электраманцёраў **Уладзімірам Курыловічам,** які працуе 43 гады і з **Максімам Скорукам,** які ў Гайнаўскім тартаку працуе ўжо 33 гады, а ў дрэваапрацоўчым промысле аж 39 год. Гісторыя кожнага з іх хапіла б на абшырную і павучальную аповесць. Немагчыма пераказаць яе ў некалькіх сказах.

Па-рознаму бывала тут у тартаку зусім нядаўна. Доўгі час ўлады не ведалі, што з ім рабіць. У 1951 годзе хацелі пераўтварыць яго ў майстэрню вырабу бочак, а тры гады пазней рашылі, што больш ад бочак патрэбны скрынкі. Урэшце ў 1955 годзе болей выразна зарысаваліся перспектывы будучыні. Апрацавана план разбудовы і перабудовы прадпрыемства, які паслядоўна ажыццяўляецца яшчэ па сённяшні дзень.

На працягу апошніх дзесяці год даўняя даволі прымітыўная лесапільня пераўтварылася ў магутны дрэваапрацоўчы камбінат, які складаецца з каля 10 амаль самастойных фабрык. Вырабы камбіната шырока вядомыя ў многіх краінах, асабліва доларнай зоны. Цягнікі з Гайнаўкі кіруюцца ў: Англію, Францыю, Заходнюю Германію, Бельгію, Італію, Аўстрыю, Швецыю, а нават у далёкі Егіпет.

Расце камбінат, а з ім растуць людзі і кіруючае яго звяно. Дырэктар камбіната інжынер **Суліма** і абодва яго намеснікі — інжынеры **Зін і Валкавыцкі** — пачалі працу ў гэтым жа прадпрыемстве як звычайныя рабочыя. Галоўны тэхнолаг камбіната, інжынер **Язэп Адамовіч** выводзіцца з недалёкага Скупава.

Належыць ён ужо да таго пакалення гайнаўскіх грамадзян, якія ў камбінат трапляюць праз сярэднюю і вышэйшую школы.

Кіраўніцтва камбіната намагаецца ісці ў ногу з часам. Пару год таму назад вялікае зацікаўленне ў краіне і на свеце (50 працэнт прадукцыі адпраўляюць у Англію) выклікала гайнаўская паркетная «мазаіка». Падобную будучыню асмельваюся варажыць гайнаўскай **навінцы,** якую можна пабачыць у кабінеце дырэктара Валкавыцкага і якую паказваў мне галоўны тэхнолаг — **гэта дэкаратыўныя пліты са стружак высокаякаснага дрэва, якія астаюцца ў працэсе прадукцыі мэблевай фанеры.**

— Не вядома было што з імі рабіць. Нават пад катламі не хацелі паліць, многа дыму, а мала агню, — гаворыць Язэп Адамовіч.

Дык спрабавалі рабіць пліты. Арыгінальныя, маляўнічыя. Як раней. Без благаславення высокіх улад, без дабавачных крэдытаў, без пакупкі дарагіх машын. Уласным промыслам.

І гэтая рыса найбольш выразна выступае цяпер у працэсе развіцця камбіната.

Юбіляра, як звычай кажа, вітаюць пажаданнямі. Да ўсіх другіх далучаем і мы свае — ніваўскія. Рабочым жадаем добрых заработкаў, высокай прадуктыўнасці і многа задавальнення з працы, а кіруючаму калектыву — смелых, на меру нашага часу, мерапрыемстваў, якія абумовілі б паспяховае развіццё камбіната і яго высокую рэнтабельнасць.

**Віктар Рудчык**

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

■ Шырокім рэхам адгукнуўся ў свеце адказ польскага ўрада на ноту ФРГ. Аднак заходненямецкі чытач дагэтуль не ведае яго зместу. Наогул большасць заходніх газет падкрэслівае, што Польшча дамагаецца не толькі прызнання сучаснай граніцы, але адначасова ставіць перад бонскімі палітыкамі справу прызнання ГДР, а таксама не прызнавання мюнхенскіх дагавораў.

Многія чытачы задаюць пытанне: чаму ўрад ФРГ прызнае граніцы выключна з 1937 года, а не з 1939? Справа ў тым, што ў 1937 годзе пачынаўся цыкл гітлераўскіх агрэсій, у выніку якіх у 1939 годзе Германія ўключыла ў сваю дзяржаву Аўстрыю, Судэты, Чэхаславакію а нават порт Клайпеду. Бонскія правадыры здаюць сабе справу, што калі б гаварыць аб граніцах з 1939 года, то гэтага маглі б не сцярпець нават самыя блізкія прыхільнікі заходнегерманскай палітыкі.

■ У мінулым тыдні адбылося пахаванне 19-гадовага італьянскага студэнта. Загінуў ён з рук фашысцкіх баявых дружын. Народ Італіі вельмі моцна зарэагаваў на гэта. Пахаванне ахвяры фашыстаў сталася мнагатысячнай дэманстрацыяй супраць адраджэння фашызму. За труной ішлі вядомыя правадыры партый Луіджы Лонга і П. Нэні.

■ Першая чэхаславацкая атамная электрастанцыя пабудаваная ў Славакіі дасць ток у канцы гэтай пяцігодкі. Праз год, таксама ў Славакіі, пачнецца будова другой атамнай электрастанцыі. Мяркуецца, што яна пачне працаваць у 1974 годзе. Палівам для гэтых электрастанцый будзе служыць прыродны уран, вялікія запасы якога мае рэспубліка.

■ Злучаныя Штаты праводзяць тыповую каланіяльную палітыку ў В'етнаме, заявіў сенатар Морзе са штата Арэгон. Выстаўляючы свае прапановы Морзе папярэдзіў, што працяг цяперашняй палітыкі эскалацыі, якую праводзіць ЗША, тоіць у сабе рэальную небяспеку перарастання ў трэцюю сусветную вайну. Заявіў ён, што хоць Злучаныя Штаты маюць ваенную перамогу ў В'етнаме, ім усё ж не ўдасца дабіцца «ўціхамірання» ў гэтай краіне ваенным шляхам. В'етнам «уціхамірваюць» ужо 20 гадоў, і гэта «ўціхамірванне» цяпер нават набыло форму сістэматычнага знішчэння рысавых палёў хімічнымі рэчывамі, бомбамі і напалмам. І нягледзячы на ўсё гэта ЗША ўсё яшчэ далёкія ад дасягненняў сваіх мэт. Морзе заклікаў урад ЗША цвяроза ацаніць абстаноўку і прыняць правільныя рашэнні, каб пазбегнуць трэцяй сусветнай вайны.

■ У Турыне, аўтамабільнай сталіцы Італіі, падпісана дагавор аб тым, што крупнейшае італьянскае аўтамабільнае таварыства ФІАТ будзе будаваць у Савецкім Саюзе прамысловы камплект прадпрыемстваў звязаных з прадукцыяй легкавых аўтамабіляў. Незадоўга гэта будзе абмяркоўвацца дзяржаўнымі органамі Італіі, таму што гэтага патрабуюць правілы.

## БССР

### ШТО СКРЫВАЮЦЬ НЕТРЫ БЕЛАРУСІ?

Ніжэй змяшчаем інфармацыю аб выніках геалагічных даследванняў у Беларусі, апрацаваную на аснове даклада навуковага працаўніка Беларускай Акадэміі навук доктара В. К. Лукашова, які адбыўся 5 красавіка г. г. у Доме Савецкай Культуры ў Варшаве.

*

Перад Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыяй мінеральныя рэсурсы Беларусі амаль не даследваліся. Дробная кустарная прамысловасць, якая пераважала ў той час у Беларусі, выкарыстоўвала невялікія колькасці вугалю, нафты, жалезнай руды і руд іншых металаў, апіраючыся ў асноўным на глінах, пяску і сельскагаспадарчых сыравінах.

Бурнае развіццё прамысловасці і геалагічнай тэхнікі за гады савецкай ўлады, а асабліва ў пасляваенны перыяд, змянілі існуючыя да таго часу погляды аб мінеральных багаццях беларускай зямлі.

У 1949 годзе на Палессі, у аколіцах Старобіна, былі ўстаноўлены адны з найбагацейшых на свеце месцанараджэнні **калійных солей.** Даследваныя іх рэсурсы складаюць каля 5 мільярдаў тон (а перспектыўныя — 17 мільярдаў), што перавышае рэсурсы калійных солей у Злучаных Штатах Амерыкі, Вялікабрытаніі і Францыі разам узятых.

На базе палескіх калійных солей хутка развіваецца ў Беларусі прамысловасць калійных угнаенняў, якая забяспечыць запатрабаванне сельскай гаспадаркі не толькі Беларускай ССР, але таксама суседніх савецкіх рэспублік. Беларускія калійныя ўгнаенні будуць у недалёкай будучыні пастаўляцца на экспарт, між іншым, у Польшчу. Перад апошняй вайной былі адкрыты ў Гомельскай вобласці вялікія слаі каменнай солі. Зараз устаноўлена, што выступае яна ў паўднёвых раёнах Беларусі на плошчы каля 25 тысяч кв. кіламетраў. Гэтая сыравіна знаходзіць шырокае прымяненне ў харчовай і хімічнай прамысловасцях.

**Выключна важнай падзеяй апошніх гадоў была знаходка нафты ў раёнах Рэчыцы. У 1965 годзе — першы раз у гісторыі — пачалася эксплуатацыя беларускай нафты. Вытворчасць «чорнага золата» хутка расце і чакаецца, што на працягу бліжэйшых двух гадоў забяспечыць запатрабаванне Беларускай ССР у гэтым паліве. Неабходна падкрэсліць, што беларуская нафта мае вялікае значэнне не толькі для Беларусі. Ужо сёння пастаўляецца яна нафтаправодам «Дружба» ў іншыя краіны.**

Геолагі лічаць, што акрамя Рэчыцкага месцанараджэння, існуе магчымасць выступлення нафты таксама ў раёне Брэста і Оршы. Чакаецца, што здабыча нафты ў Беларускай ССР у 1970 годзе перавысіць узровень 3 млын. тон. Не выключаецца пры гэтым, што ў раёнах выступання нафты могуць быць адкрыты месцанараджэнні прыроднага газу.

Рэзультатам шматгадовых пошукаў беларускіх геолагаў з'яўляецца таксама **каменны вугаль.** Выступае ён на поўдні рэспублікі — у абласцях Гомельскай і Брэсцкай. Магчыма, што ў

**(Працяг на стар. 5)**

## ПОЛЬШЧА

### СВЯТА ПЕРАМОГІ

7 і 8 мая ў цэлай краіне людзі ўрачыста адзначалі 21-ую гадавіну гістарычнай перамогі над фашысцкай Германіяй. Галоўныя ўрачыстасці сканцэнтраваліся ў Кракаве і Вроцлаве. 7-га мая на вялікім мітынгу, які адбыўся на Кракаўскім Рынку, з абшырнай прамовай выступіў прэм'ер-міністр Юзэф Цыранкевіч. За асаблівыя заслугі для айчыны на працягу многіх стагоддзяў нашай гісторыі Савет Дзяржавы прысвоіў Кракаву і Кракаўскаму ваяводству найвышэйшы польскі ордэн — Ордэн Будаўнікоў Народнай Польшчы.

У Вроцлаве, дзе на ўрачыстасці прысутны быў міністр замежных спраў Адам Рапацкі, адбылося ўрачыстае ўмураванне ў фундамент «Акту Заснавання» Помніка Заходніх і Паўночных Земляў. Адам Рапацкі гаварыў аб нязменных асновах польскай замежнай палітыкі. Вроцлаў і Вроцлаўскае ваяводства таксама адзначаны Ордэнам Будаўнікоў Народнай Польшчы.

### ЭСТАФЕТЫ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ

Пасля звыш трох тыдняў усе чатыры Эстафеты Тысячагоддзя дайшлі да сваіх мэт. У Гданьску, Шчэціне, Калобжэгу і Згажэльцу адбыліся ўрачыстасці перадачы прадстаўнікам мясцовай грамадскасці «Кнігаў чыну» з тысячамі подпісаў пад урачыстым «Заклікам Тысячагоддзя».

### XIX ВЕЛАГОНКА МІРУ

Калі «Ніва» дойдзе да вашых рук велагоншчыкі ўжо будуць на палавіне шляху XIX велагонкі міру, якая пачалася 9 мая ў Празе. Да спаборніцтваў прыступіла 19 каманд. У саставе польскай каманды знаходзяцца: Мар'ян Кегель, Ян Кудра, Уладзіслаў Казлоўскі, Чэслаў Палевяк, Ян Магера і Раймунд Зялінскі. Спадарожнічае ім трэнер Генрык Ласяк.

### БЕРЛІНСКІ МЕДАЛЬ

Нядаўна Сейм ПНР прыняў пастанову аб устанаўленні «Медаля за ўдзел у баях за Берлін». 6 мая адбыліся ў Варшаве першыя ўрачыстасці па ўручэнню берлінскага медаля. Прэм'ер-міністр Ю. Цыранкевіч як першаму ў нашай краіне ўручыў «Медаль за ўдзел у баях за Берлін» маршалу Польшчы, міністру абароны, члену ЦК ПАРП Мар'яну Спыхальскаму. Затым міністр абароны гэты медаль уручыў першай групе генералаў і афіцэраў, некаторым пасмертна. Сярод адзначаных знайшліся маршал Польшчы Міхал Роля-Жымерскі і пасмертна генерал Караль Свярчэўскі. Медаль прыняў яго сын — таксама Караль Свярчэўскі.

### ПАЎСТАНЦАМ ШЛЁНСКІМ

45 год таму назад ноччу на 3 мая 1921 года люд Шлёнска ўжо трэці раз падняўся на барацьбу за ўз'яднанне з Польшчай акупіраванай немцамі польскай зямлі. У 45-ую гадавіну ў Катавіцах сабралося каля 700 тысяч чалавек, якія адзначылі геройства і патрыятызм шлёнскіх паўстанцаў. У Катавіцах пабудуюць ім помнік. Урачыстасці закончыліся прысягай моладзі на вернасць Айчыне.

## ВАЯВОДСТВА



**СТАНІСЛАЎ ВАГУРКА**
**(Дзядзька Лявонь)**

**Цяжка памірыцца з думкай, што ўжо няма Яго ў жывых, што не знойдзем больш у «Ніве» Яго фельетонаў скромна падпісаных «Дзядзька Лявонь». Не расставаўся з намі ад самага пачатку. На працягу 10 год штотыдзень змагаўся непадкупным смехам і з'едлівай сатырай з усялякімі недастаткамі нашага жыцця. Сярод чытачоў «Нівы» заваяваў трывалую славу і рэдкую папулярнасць. Калі рэдакцыя аб'явіла анкету, каб даведацца, што найбольш ахвотна чытаюць нашыя сябры, дык Дзядзьку Леваню далі яны першае месца. Быў працавіты і стойкі. Доўга змагаўся са злавеснай хваробай. Свае фельетоны прысылаў нават з бальніцы. Чытаючы іх ніхто не мог дадумацца, што ён ужо ў кіпцюрах смерці. Памёр ноччу 8 мая 1966 года — у дзень Сваіх Імянінаў. Рыхтаваўся да іх. Яшчэ, з характэрнай для Яго ўсмешкай, прымаў віншаванні ад былых сяброў па рабоце. Гаварыў аб творчых планах. Распачаў пісаць аповесць, у якой хацеў перадаць вопыт свайго бурлівага жыцця.**

**Нарадзіўся 6 ліпеня 1900 года ў Станіслававе ў сям'і рамесніка. Бацька ў пошуках працы прывандраваў аж у Варшаву, а ў час I сусветнай вайны разам з сям'ёю знайшоўся ў глыбі Расіі. Тут Станіслаў Вагурка ўступіў добраахвотнікам у Чырвоную Гвардыю, а затым быў воінам Чырвонай Арміі.**

**Яго жыццё цесна было звязана з друкаваным словам. У паслярэвалюцыйныя гады працаваў карэспандэнтам газеты «Пралетарый», а калі ў 1945 годзе прыехаў у Польшчу, — найдаўжэй займаўся распаўсюджваннем газет і кніжак. Быў членам Саюза польскіх пісьменнікаў. Астанецца пасля Яго добрая памяць. І колькі раз возьмем у рукі зборнік Яго фельетонаў, будзе нам спадарожнічаць вясёлы і бадзёры Дзядзька Лявонь.**

**Слава Яго памяці!**

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA 15.V.

8.25 Program dnia; 8.30 TV Kurs Rolniczy: „Niektóre zagadnienia nawożenia pastewnych"; 10.20 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia dla naszych przyjaciół" (Berlin); 11.00 Dla młodych widzów: Kino Przygoda — „Tajemnicza twierdza" — film fab. radz.; 12.20 Wiad. dz. TV; 12.35 PKF; 12.45 „Koń który mówi" — film; 13.10 „Sejneńskie barwy" — („Reportaż z pocztówki"); 13.25 Dla dzieci — „Telezabawa"; 14.05 Dla dzieci: „Ula z II b"; 14.25 „Budowle, które pogrążają się w ziemię" — („Piórkiem i węglem"); 15.00 „W kręgu mecenatu Gorkow" — („Sezam muzyczny") — inscenizowany program muzyczny; 15.50 „Czas nieutracony" — rep. film.; 16.05 „Szklana niedziela" (I); 16.15 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia VI etapu (215 km) Gottvaldowo — Katowice; 17.35 „Szklana niedziela" (II); 17.45 Niedzielny Teatr TV: „Duet" Kornela Makuszyńskiego. Wykonawcy: Z. Saretok, J. Englert, T. Fijewski, I. Gogolewski, A. Żarnecki; 18.55 „Szklana niedziela" (III); 19.05 Film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 Niedzielny program rozrywkowy (Budapeszt); 20.45 „Szklana niedziela"; 20.55 Angielski Zespół big-beatowy; 21.50 „Skazany na śmierć" — nowela filmowa wg Guy de Maupassant'a; 22.20 Niedziela sportowa.

PONIEDZIAŁEK 16.V.

15.55 Program dnia; 16.00 Finał bokserskich Mistrzostw Związku Radzieckiego (Moskwa); 16.15 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia VII etapu (208 km) Katowice — Łódź; 17.20 Dla młodych widzów: „Gol" odc. II; 17.40 c. d. finału bokserskich Mistrzostw Związku Radzieckiego (Moskwa); 18.30 Kino Krótkich Filmów; 18.55 „Zbrodniarze wojenni"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 Teatr TV: „Pożegnanie z Marią" Tadeusza Borowskiego; 21.10 „Eureka"; 21.40 „Na półkach księgarskich"; 21.50 Dziennik TV; 22.05 16 lekcja jęz. ang.;

WTOREK 17.V.

9.35 „Co słychać, młody człowieku" — film fab. węg.; 10.55 Dla szkół: (kl. VII i X) Aleksander Fredro „Zemsta" („Dzieje dramatu"); 11.25 Przerwa; 16.00 Program dnia; 16.05 Politechnika TV, Kurs Przygotowawczy. Fizyka (praca i moc prądu elektrycznego. Prawo Joule'a). Wykładowca: doc. G. Białkowski (Gdańsk); 16.35 Wiad. TV; 16.40 Dla młodych widzów: „Moje miejsce w życiu"; 17.10 Informator handlowy; 17.20 „Wiosenka" — program rozrywkowy. Wykonawcy: Zespół „Ali Babki", M. Zembaty, J. Bogacki; 17.55 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z VIII etapu (108 km) dookoła Warszawy; 19.00 „Deszcz i grad" (Szczecin); 19.25 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Co słychać, młody człowieku" — film fab. węg. od lat 16; 21.35 „Film i... nastolatki" — („Na wielkim ekranie"); 22.05 Dziennik TV; 22.20 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka (Praca i moc prądu elektrycznego. Prawo Joule'a). Wykładowca: doc. G. Białkowski (Gdańsk); 22.50 17 lekcja jez. franc.

ŚRODA 18.V.

8.40 „Maszeńka" — film fab. radz. 9.55 Dla szkół: (kl. VII) „Z wizytą w Powiatowej Radzie Narodowej" („Wychowanie obywatelskie"); 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VII). Fizyka — „Jak silnik spalinowy wprawia w ruch samochód"; 11.25 Przerwa; 16.00 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka (Konstrukcje geometryczne) Wykładowca: dr R. Krasnodębski (Wrocław); 16.30 Wiad. dz. TV; 16.40 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia IX etapu (117 km) Kutno — Poznań; ok. 18.00 Sprawozdanie sportowe; w przerwie ok. 18.15 PKF; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „W rodzinnym gronie" — nowela film. wg Guy de Maupassant'a; 20.30 „Światowid"; 20.55 Koncert młodych; 21.25 Dziennik TV; 21.40 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka. (Konstrukcje geometryczne). Wykładowca: dr R. Krasnodębski (Wrocław); 22.10 17 lekcja jez. ros.;

CZWARTEK 19.V.

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Od kołowrotka do maszyny"; 11.25 Przerwa; 15.05 Program dnia; 15.10 17 lekcja jęz. franc.; 15.30 TV Kurs Rolniczy: „Mechanizacja zbioru zielonek na kiszonki"; 16.20 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia X etapu (200 km) Poznań — Szczecin; 17.30 Wiad. dz. TV; 17.35 Dla dzieci: „Pan półka i spółka; 17.55 „Nie tylko dla pań" — mag.; 18.20 „Jazz w Polsce" — V prgram („Historia jazzu)"; 18.50 „Sprawy do załatwienia"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Zbuntowani znad Tamizy" — film Tele-Ar; 20.15 Teatr Sensacji: „Przyznaję się do winy" cz. II. Wykonawcy: w roli gł. — J. Bukowski, oraz M. Kiernikówna, W. Kwaśniewska, E. Nowosad, A. Zawieruszanka, E. Karewicz, Cz. Wołłejko, M Gorczyński, M. Kalenik, J. Karaszkiewicz, W. Kowalski, A. Mirecki, G. Nehrebecki, J. Radwan, S. Żórawski; ok. 21.15 „Miniatury"; ok. 21.45 Dziennik TV; ok. 22.00 Magazyn Medyczny.

PIĄTEK 20.V.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) „Szyjemy pokrowce". („Zajęcia techniczne"); 10.25 Przerwa; 12.00 Dla szkół: (kl. II) „Barwy wiosny"; 12.20 Przerwa; 16.30 Program dnia; 16.35 16 lekcja jęz. ang.; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla młodych widzów: „Zrobimy to sami"; 17.30 „S.O.S. Nosorożec" — film („Świat, który nie może zginąć"); 17.55 Informator handlowy; 18.05 „Wielokropek"; 18.20 „Kryptonim PL"; 18.45 Wszechnica TV: „Tadeusz Kościuszko" — program historyczny; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Lidzbark Warmiński" — rep. film.; 20.15 „Paisa" — film fab. wł. od lat 16; 22.15 „10 minut recenzji"; 22.25 Dziennik TV; 22.35 17 lekcja jęz. ang.;

SOBOTA 21.V.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia — „Osiągnięcia gospodarcze w XX-leciu PRL"; 10.30 „Bez wyjścia" — film fab. USA; 12.20 Przerwa; 15.15 Program dnia; 15.20 17 lekcja jęz. ros.; 15.40 Dla nauczycieli: „Usuwać czy nie usuwać ze szkoły" — („Psycholog radzi"); 16.00 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XI etapu (192 km) Szczecin — Rostock); 17.30 Wiad. dz. TV; 17.35 Program tygodnia; 17.50 Dla młodych widzów: „Dzień dobry, niedzielo czyli Liga Entuzjastów Wakacji"; 18.20 Tele-Echo; 18.50 „Spotkania z Tysiącleciem"; 19.20 Dobranoc; 19.30 „Monitor"; 20.05 „Przedstawiamy" — rewia piosenek (Interwizja); 21.05 Dziennik TV; 21.20 Wiadomości sportowe; 21.30 „Bez wyjścia — film fab. USA.

 

# КЛУБ ліцэіста

## ПАДАРОЖЖА НА МЕСЯЦ

Заўсёды я думала сабрацца ў падарожжа на Месяц. Нечакана мае мары споўніліся. Мне запрапанавалі прыняць удзел у навуковай экспедыцыі на Месяц. Я вельмі абрадавалася. Аднак калі падумала, што мяне чакае, мне стала маркотна. Нават не падумала ніколі аб тым, што мне будзе цяжка расставацца з нашай планетай.

Што мне рабіць?

Урэшце я вырашыла ляцець на Месяц. Развіталася з бацькамі, сябрамі і сяброўкамі. Маці параіла: сядзі спакойна і не выглядай праз акно.

Я не ведала, ці калі-небудзь яшчэ вярнуся на Зямлю. Ужо старт. На Месяц ляціць пяць чалавек. Ракета адарвалася ад зямлі. Нейкая сіла ўціснула нас глыбей у крэсла. Потым усе кінуліся да акон. Неба было чорнае, а на ім зіхацелі жоўтыя зоркі. Здалёк мы ўбачылі Зямлю. Яна зіхацела блакітнаватым святлом. На Зямлі было відаць моры і кантыненты. Удзельнікі экспедыцыі глядзелі задумана на Зямлю.

Ракета мякка прызямілася. Мы апрануліся ў скафандры і выйшлі з ракеты. Тут адазваўся Коля: — Паглядзіце, ракеты на Месяцы.

Але гэтая ракета не паходзіла з Зямлі. Была выканана з невядомага метала. Я заявіла добраахвотна заняцца даследаваннем. У ракеце знайшла розныя дакументы, аднак мы іх не маглі прачытаць. Калі мы прыйшлі да ракеты, то ўбачылі, што з намі няма Ніны. Дзе прапала Ніна?

Пачаліся пошукі. Пасля доўгіх пошукаў убачылі мы Ніну, якая стаяла пад велізарнай скалай. Яна не магла паварушыцца. Яна з цяжкасцю сказала адно слова, «камень». Ля яе ног ляжаў зялёны камень.

Калі мы адкінулі гэты камень, яна магла тады ісці. Разам з Нінай пайшлі мы да ракеты. Ніна штораз больш рабілася зялёнай і не магла гаварыць. Наша знаходжанне на Месяцы мелася працягвацца яшчэ два дні. Аднак мы вырашылі вярнуцца на Зямлю. Ніне была патрэбная неадкладная медыцынская дапамога. Цяпер ніхто не захапляўся прыгожасцю космасу. Усе былі занятыя Нінай. Ці можна выратаваць жыццё Ніны?

**МЦ з Беларускага ліцэя**
ў Гайнаўцы

## МАЕ ЎСПАМІНЫ

Быў марозны студзеньскі вечар. На бязвоблачным небе мігацелі тысячы яснейшых і цямнейшых зорак. Як жа вельмі тады яны ўпрыгожвалі начное неба. З-за лесу высоўваўся чырвоны падобны да жару ў печы месячык. З усходу дзьмуў невялікі вецярок. Ён пераносіў з аднаго дрэва на другое, з аднаго боку вуліцы на другі мяккі скрыпучы пад нагамі снег.

Гэты вечар быў для мяне самым прыгожым і вельмі радасным, хаця пачаткова мне здавалася, што будуць невялікія цяжкасці.

Дайсці вечарам да маёй школы, гэта не была зусім такая, як вам здаецца, простая справа: чатыры кіламетры, а да таго яшчэ і вялікі мароз. Аднак гэтага вечара дарога сталася такой кароткай, што я не прыкмеціла, калі і знайшлася ў школьнай зале. Мне здавалася, што на дварэ марозу і не было, хоць градуснік паказваў пятнаццаць градусаў. У час падарожжа мне таксама здавалася, што ўвесь час аркестр іграе такую мелодыю, якой я ніколі ў жыцці не чула, а калі і чула, дык толькі і выключна ў сне.

У зале было цёпла і ясна. Мне здавалася, што лямпачкі, зусім падобныя да гэтых ясных зорачак, якія праводзілі мяне ў школу. Аркестр ужо іграў. Сяброў і сябровак у зале было яшчэ мала. Праз дваццаць хвілін уся моладзь і ўсе нашы настаўнікі былі ўжо ў школе. Усе былі прыгожа апрануты. З усіх твараў знікнула задуманасць. У бляску святла іскрыліся распаленыя вочы моладзі. Мне таксама здавалася, што і нашыя настаўнікі — гэта ж не тыя людзі, з якімі мы сустракаемся на ўроках. Дзе падзеўся гэты суровы, як нам здаецца, погляд. Так — гэта ўсё забрала музыка. Аднак яна не заўсёды можа развесяліць чалавека, яна таксама можа часам маладую дзяўчыну давесці да плачу. Так здарылася са мной. Чаго я плакала — не магу гэтага дастаць з глыбіні сэрца і не магу сказаць.

Ваша сяброўка **Ніна**
Гайнаўка

На працягу апошніх дзён снегу ўсё прыбывала і прыбывала. Ён пакрываў дарогі, хаты і дрэвы. Наступала сапраўдная зіма. Дні станавіліся кароткімі, а ночы доўгімі. На рацэ пачаў паяўляцца першы тонкі лёд.

Быў гэта канец лістапада. Жанчыны вельмі любілі збірацца з кудзелямі, а мужчыны вольныя вечары праводзілі ў карчме. Карчма стаяла непадалёку дарогі, якая вяла ў горад. У гэтай карчме можна было сустрэць, між іншым, Яна — наймацнейшага мужчыну ў вёсцы, Барбэ — яго суседа і шмат іншых.

## ДРЭННАЯ ДАРОГА

Аднойчы ў суботу, пасля выканання хатняй працы, каля калодзежа спаткаліся добрыя суседзі.

— Яне, — адазваўся Барбэ, — можа сёння вечарам пойдзем у «Клуб»? (Карчма ў іх уяўленні была «Клубам).

— Добра, — адказаў Ян.

Неўзабаве добрыя суседзі сустрэліся ў карчме. Праходзілі гадзіны, а яны пастаянна сядзелі ля чарак. На дварэ была глыбокая ноч.

— Янушку, вяртаемся, — чырвоны ад гарэлкі і з чырвоным носам сказаў Барбэ.

— Вяртаемся, — адказаў таксама п'яны Ян. Суседзі ўзяліся пад рукі і выйшлі з карчмы. Яны былі так п'яныя, што не маглі распазнаць дарогі ў хату. Яны заблудзілі і пайшлі ў напрамку рэчкі. Не заўважылі, калі знайшліся каля яе. Рэчка была пакрыта снегам. Яны пачалі пераходзіць яе. Лёд пачаў трэскаць пад нагамі, яны аднак не спадзяваліся, што чакае іх няшчасце. Раптам лёд заламаўся, і яны пайшлі ўніз. Толькі цяпер пераканаліся, што яны ў небяспецы. Пачалі клікаць дапамогі. Ледзяная вада ўцягала іх усё мацней і мацней.

— Ратунку, ратунку! — было чуваць галасы, аднак іх кліку ніхто не чуў. У вёсцы ўсе спалі. Апошні раз з-пад вады адазваўся хрыплы голас Яна:

— Ратун....!

Апошнія гукі заглушыў плёскат вады. На ўсходзе неба пачынала ружавець.

**Раіса Русачык**
Гайнаўка

## ГРЫБЫ

Памятаю, міленькія, усё ўсенька, што калісьці яшчэ было, калі я была невялікай. Але вось у гэтым выпадку, аб якім я хачу вам расказаць, не памятаю, колькі мне было тады год. Раскажу тут вам тое, што яшчэ і па сённяшні дзень захавалася ў маёй памяці. Пайшла я аднойчы ў лес па грыбы. А гэты ж лес быў панскі, і грыбы, што ў ім раслі, таксама. Грыбоў як на шчасце не было вельмі многа. Іду сабе я і думаю: вось назбіраю вялікі пудовы кош, дык насушу і насмажу з салам. А яны ж такія смачныя, як мяса, і аж мне слінка па барадзе пацякла. Сюды — туды пахадзіла па лесе і назбірала гэтых чорнагаловых палавіну коша. Ну, а цяпер пайду яшчэ на сваё грыбовішча, падумала я толькі, як нешта ў паблізкіх кустах зашалясцела і з-за кустоў выйшаў ляснік. Ах, божачкі, што ж гэта цяпер будзе, прамільгнула мне думка ў галаве, дый доўга не думаўшы, за кошык і ў ногі, а ляснік за мною. Злапаў ён мяне дый кажа: «хто гэта пазволіў тут грыбы збіраць». Паночку, даруйце, не рабіце крыўды, білета ж дома я забылася. Ну і што ж вы думаеце, памілаваў, каб яго сяк ды так, грыбы разбіў, а кошык паламаў. А цяпер падумаеш. А гэта ж не так даўно было.

**«Галіна»**
Гайнаўка




Міхась Саевіч (Гайнаўка): «Чорныя кветкі» атрымалі. Надрукуем.

Ліцэісты з Міхалова: калісьці парадавалі Вы нас цікавымі артыкуламі (друкаваліся ў «Ніве»). Чаму цяпер не пішаце ў «Клуб»?

Ліцэісты з Педагагічнага ліцэя ў Бельску: Ветліва запрашаем да супрацоўніцтва. Чакаем на Ваш матэрыял.

«Бор» (Гайнаўка): «Узнагароду» атрымалі, але друкаваць не будзем: тэма не падыходзіць. «Гайнаўянку» апісваў ужо М. Саевіч. Пастарайся напісаць нешта новае.

«Суседка» (Гайнаўка): Пішаш: «Прашу цябе «Ніва», каб Ты шчыра напісала мне, ці мае літаратурныя спробы штосьць вартыя, ці пакінуць пісаць». Хвалім за скромнасць, але чаму ўжо пры першых спробах такая няўпэўненасць у свае сілы? Вышэй галаву!

**Што чуваць у Гайнаўскім беларускім ліцэі?**

## СПЯВАЕМ, ТАНЦУЕМ, ГРАЕМ, РАСКАЗВАЕМ...

Пры Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы год таму паўстала эстрадная група, у якую запісалася 20 вучаніц і вучняў гэтай школы. Інструктарам з'яўляецца настаўніца Равінская. Дзякуючы ёй, а таксама дырэктару школы грам. Тропак і настаўніку па беларускай мове грам. Сакоўскаму гурток у так кароткім часе дабіўся ўжо вялікіх поспехаў. Між іншым выступаў ён у Беластоку на V з'ездзе БГКТ. Што можна пачуць і пабачыць у час выступлення эстраднага гуртка з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы? Усё: песні, музыку, танцы, гумарэскі, ну і... вельмі прыгожыя дзяўчаты (хлопцы таксама не апошнія!).

**Міхась Саевіч**
Гайнаўка

## ВЕЧАР

Надышоў змрок... Пасля цёплага дажджу надыходзіў сапраўдны майскі вечар. Усё вакол ахутаў густы прыемны туман. Сваім далікатным покрывам прыпаў да нізкіх берагоў рэчкі, сцягаючы туды хмары камароў. Лес маўчаў. Толькі над вадою пахіліліся дзве старыя вярбы — кумачкі, аб нечым патаемна шэпчучы. Было ціха. Здалёк разліваліся чароўныя трэлі салаўя, якому хорам памагалі жабы. Усё стаяла ціха, баючыся перарваць гэты прыемны настрой. У цішыню ўкралася тужлівае іграннe гармоніка. Дзяўчаты спявалі народную песню «Місяць на нэбі». Іх галасы зліваліся ў адзін чароўны тон, адбіваліся ад гладкай паверхні вады, і рэха неслася далёка, далёка... Усё было ачараванае гэтым цудоўным вобразам. Хацелася б затрымаць час, каб ніколі гэта не знікала і засталося назаўсёды.

**«Суседка»**



## ЗАПЛАТА

На дварэ падаў дождж. Мы з Колем схаваліся ў хату. У хаце каля стала сядзеў мой дзед. Сядзеў задуманы. — Скажыце, дзедка, чаму вы так сумна седзіцё, можа вам бабка што кепскага сказала? — запытаўся я.

— Дурань з цябе, ты глянь, што на дварэ робіцца. Ты падумай з розумам, што на полі мокне бацька і маці, — адказаў дзед Максім (бо так ён зваўся). Я і Коля стаялі як укопаныя, нам стала сорамна. Мы ж хацелі пагутарыць з дзедам, каб хутчэй нам час прайшоў. — Як вы былі маладым хлопцам, то мелі такую волю, як мы цяпер маем?

— Мой дарагі, я пас коні. За кусок сухога хлеба. Ад рана да вечара. А калі не пас, то ехаў з бацькам у лес на работу. Рабіць хацелася «як сабаку за хвост круціць». Бацька хацеў як найхутчэй ажаніць. Слухайце, раскажу, як гэта было.

Падаў дождж, вось як цяпер. Я ішоў якраз з лесу. Калі ўжо быў у вёсцы, хтосьці пачаў мяне клікаць: Максім, Максім. Глянуў там і ўбачыў каля хаты маладую дзяўчыну, была гэта мая сяброўка, бацькі яна не мела, бо гром забіў яго на полі, і ад гэтай пары жыла толькі з маці. Калі я падыйшоў да яе дома, яна папрасіла, каб я злітаваўся і прывёў з поля карову, бо сама баялася ісці. Стала мне шкада гэтай сяброўкі, а яшчэ да таго была прыгожай. Хутка я пабег на поле па карову, ведаў яе добра. На полі карова стаяла спакойна і чакала, каб хтосьці вызваліў яе ад ланцуга. Да дому з каровай вярнуўся таксама хутка. Загнаў яе ў хлеў, а сам пайшоў дахаты дзяўчыны, каб сказаць, што ўжо карову з поля прыгнаў. Маці дзяўчыны была вельмі рада, а дзяўчына гатова была мяне цалаваць за гэта. Маці налягала, што мне даць за гэта. Я ўсміхаўся, а сказаць, чаго хачу, не мог. Маці сказала, што можа аддаць сваю дачку мне за жонку. Мне не верылася, што гэта маці яе так сказала. Я не адказаўся ад гэтай заплаты. Хутка зрабілі вяселле і па сённяшні дзень жыву з ёй у згодзе. Паказаў рукою на бабку, якая сядзела блізка нас і ўважліва слухала свайго мужа.

Дзед скончыў успаміны. Мы падзякавалі за расказ. Я пачаў думаць над дзедавым расказам. О, каб так я быў тым дзедам (але я толькі думаў і марыў). Трэба на такое штосьці заслужыць. Я ўстаў з крэсла і сказаў да Колі, — ідзем на падбой фантазіі. Вышлі мы на двор, дождж падаў, але ўжо меншы. Коля не схацеў ісці са мною і пайшоў дахаты. Я думаў аб тым, што можа і мяне спаткае такое шчасце, як майго дзеда. Ішоў дарогай і сам не ведаў, куды зайду. Раптам пачуў, што мяне хтосьці кліча. Адвярнуўся і на ганку ўбачыў маю сяброўку са школы, Веру, хутка падбег да яе.

— Валодзік, ведаеш што? — запытала яна.

— Не, не ведаю, — адказаў я радасна.

— Каб ты быў добры, а прывёў нашага каня з поля. Ты і так ходзіш без работы.

— Як для цябе, то заўсёды. А хто ў цябе ў хаце ёсць? — запытаўся я.

— Я толькі сама, бо маці з бацькам паехалі ў Гайнаўку, а вернуцца не хутка.

Рвануўся я з месца і чым хутчэй жа на поле, па каня. Сэрца біла моцна і сцвярджала, што дасягнуў сваёй мэты, так як дзед у апавяданні. Бег так хутка, як толькі мог, і здавалася, што нават дождж перастаў падаць. Каня забраць з поля было цяжка. Уцёк мне з рук, калі яго вызваліў ад ланцуга. Доўга я за ім ганяўся, пакуль ён сам супакоіўся. Каня завёў у стайню, а сам пайшоў да Веры. Не паспеў я адчыніць дзверы, калі перада мною стаяла ўжо маці Веры. Сказала мне адно слова — «Дзякую» — і ўсунула ў кулак два злотых.

**«Р. Р.»**
Л. О. — 10 — Гайнаўка



 

 

# ПРА НЕДАСКАЗАНАЕ ПАЭТАМ



**У сакалдоўскай школьнай святліцы выступаюць Алесь Барскі (чытае) і Віктар Швед.**

**(Працяг са стар. 1)**

трэба тут смяяцца? Усе натуральныя рэакцыі і рэфлексіі падаўлены здзіўленнем з гэтых двух дзіўных людзей, якія прыехалі надзе здалёк, каб у аўрэолі нафтавых лямп пачытаць азяранскім дзецям беларускія вершы. Азяраны — невялікая вёска, закінутая на «канцы свету», на самай граніцы, і прыехаўшыя аўтамашынаю чужыя людзі — тут сенсацыя. Таму ля будынка школы хутка збіраецца натоўп азяранскіх жанчын. Натоўп не разыходзіцца і тады, калі паэты выходзяць са школы і пачынаюць ветлівыя і доўгія развітанні з настаўніцамі. Мясцовыя жанчыны з гэтай самай дабрадушлівай непасрэднасцю сочаць за паэтамі, кожным рухам герояў гэтай своеасаблівай сцэны, з якой узіраюцца на гульні маладых на мясцовых «музыках» ці вяселлях.

Перад восьмай гадзінай вечара мы ўжо ў Крушынянах. Едзем у крушынянскую святліцу, дзе, як нас інфармуюць, заўсёды поўна людзей. Тэлевізар!

Прысутныя ў крушынянскай святліцы чакаюць на тэлевізійны дзённік і нудзяцца. Некаторыя гуляюць нават у карты. Кіраўнічка святліцы інфармуе прысутных, што прыехалі рэдактары «Нівы» (памылілася), якія хочуць пагутарыць з крушынянцамі. У зале незадавальненне.

— Дзённік зараз будзе!

— Пасля дзённіка можна гутарыць!

— Будзе яшчэ другі дзённік, — адказвае светліцовая і бесцырымонна выключае тэлевізар. У святліцы паяўляюцца паэты. Віктар Швед пачынае чытаць свае вершы; аб мове, аб міру, аб атамнай бомбе. Потым сатырычныя і вершы для дзяцей. Слухачам падабаюцца вершы сатырычныя, а яшчэ больш гумарыстычныя дзіцячыя вершы Шведа. Рэагуюць на іх бурлівым смехам.

Барскі чытае сваё апавяданне «Вечарынка». Акцыя апавядання развіваецца вёртка, і слухачы штораз больш пільна ўслухоўваюцца ў рэзкі голас Алеся. Заслуханыя твары перастаюць нават рэагаваць на бліскі фотаапарата, які безупынна працуе. Паміж залаю з выступаўшымі нарастае штораз больш цесны эмацыянальны кантакт. Калі паэт скончыў, у зале чуюцца галасы прызнання:

— Добра напісана!

— Угу.

Пасля прачытання яшчэ некалькіх вершаў Барскі заяўляе:

— Дык мы ўжо кончым. Можа маеце нейкія пытанні да нас?

І дадае:

— Позна ўжо, і мы вам перашкодзілі ў аглядaнні тэлевізара.

У зале вострыя і энергічныя галасы пратэсту:

— Гэта важнейшае ад тэлевізара!

— Тэлевізар у нас штодзень!

— Ну, дык пытайце, што вас цікавіць — заяўляе паэт.

У зале цішыня: што тут запытаць паэтаў? Паэты, якія выступаюць на роднай крушынянцам мове, закранулі важную ў крушынянскай душы струну. Толькі як знайсці словы для выражэнняў тонаў гэтай струны. А тут Барскі рупіць:

— Ну, як нічога не маеце, дык мы паедзем.

Урэшце ёсць:

— Скажыце, — гаворыць нехта з крушынянцаў, — чаму нашая беларуская мова такая цяжкая?

— Дык вы ж дасканала гутарыце пабеларуску, — пратэстуе Віктар Швед.

— Але чытаць ніхто не ўмее. Ну, аніяк чытанне не выходзіць.

— Слоў многа перайначаных.

— Літары цяжкія



**Дзеці ў Азяранах слухаюць паэтаў са здзіўленнем...**



**Крушынянцы слухаюць паэтаў.**

Фота аўтара

Крушынянцы не ведаюць праўды вядомай педагогам, што каб умець чытаць — мала ведаць мову і літары, трэба ўмець «на ляту» пазнаваць словы і цэлыя фразы ў іх графічным выглядзе. А навучыцца гэтага можна праз доўгую трэніроўку ў чытанні. Крушынянцаў нервуе аднак факт, што родная мова цяжэйшай ім у чытанні чымсьці польская ці руская, і хацелі б ведаць, чаму гэта так.

Не растлумачыў ім гэтага Віктар Швед, які адказваў на пытанні. Не растлумачыў шмат іншых спраў, якія маглі цікавіць крушынянцаў. Бо каб растлумачыць усё, павінен бы прасядзець у крушынянскай святліцы не адзін доўгі вечар. І таму ўрачыстасць абрываецца раптоўна, быццам мелодыя абарваная на найвышэйшым тоне. Астаецца пачуццё нечага недакончанага. З залы яшчэ даносіцца:

— Чаму так рэдка да нас прыязджаеце?

— Прыедзьце яшчэ раз!

Але паэты ўжо ў аўтамашыне. Спяшаюць, каб прынамсі дапоўначы вярнуцца ў Беласток.

А можа б так вярнуцца ў Крушыняны і ім падобныя вёскі і даспяваць недаспяваную мелодыю? Пагутарыць з сялянамі аб мове, нацыянальнасці, радзіме, аб традыцыі і сучаснасці беларусаў? Апошняе пытанне адрасую зразумела не да Барскага і не да Шведа.

**Ул. Паўлючук**

# У ПАЛАЦЕ Nr 5

Бальнічная палата № 5 у Бельску Падляшскім. Ляжыць нас тут сем чалавек. Нудны і марудны лёс хворага чалавека. Калі надта хворы, здаецца, каб магчы пахадзіць і каб боль перастаў, а калі гэта міне, тады хочацца пайграць у «дурня» ці «тысячу», рэдка калі ў шахматы, таму што іх тут няма, і мала хто ўмее іграць. Але найдаўжэйшыя і найцікавейшыя — гэта дыскусіі. Размовы вядуцца на розныя тэмы, пачаўшы ад палітыкі, а кончыўшы на чысціні бальнічнага адзення. Бываюць гутаркі і больш інтымныя, глыбокія.

Побач мяне ляжыць 77-мігадовы дзядуля К. з Орлі. Якраз усе хворыя з нашай палаты пайшлі глядзець тэлевізар. Засталося нас толькі двух. Стараюся чытаць газету. Не ідзе... Думаю аб жонцы, калегах, працы... Дзядуля таксама варочаецца з боку на бок. Старому таксама збрыдла ляжаць. Але нічога не зробіш, хвароба прыкавала, дык трэба лячыцца. Дзядуля не вытрымаў і зачапіў мяне першы. Пачалася размова, а мо інакш, гэта дзядуля К. цэлы час расказваў.

Ужо добра не памятаю, але здаецца, што размова пачалася ад таго, як дзядуля быў малады, якія ў яго былі «на цэлы горад Орлю» коні, колькі іх прапусціў праз свае рукі. Потым расказ пра бежанства ў Расіі, як жыў, колькі меў грошай і... **д з я ц е й.**

Чатырох сыноў выгадаваў К. Адзін з іх, найстарэйшы, жыве ў Орлі, двух пакінулі бацьку і выехалі ў Элк, там пажаніліся і працуюць, а адзін, былы «паручнік», працуе тэхнікам сувязі на пошце ў Бельску. А з якім гонарам расказвае старык пра сваіх сыноў. Найбольш горда ўспамінае аб тым, як высылаў аднаго з іх на афіцэрскую школу, як падараваў яму раменны афіцэрскі пояс і прыказваў, каб быў годны яго.

— І вывучыўся, ведаеце. Меў тры звёздачкі.

— Го! А і цяпер што яму. Ён тэхнік, мае пад сабою людзей, самаход яму даюць. Праводзіць усюды тэлефонныя лініі. А жыве ў блёку ля самай ратушы. У хаце тэлевізар амаль за 11 тысяч грае.

— Дык гэты тэхнік хіба вас часта наведвае тут?

— От. Быў адзін раз. Але ў яго важная праца, не мае часу.

— А гэты, што ў Орлі?

— Гэты то рамеснік. Але ён да мяне зусім не ходзіць. Проста гневаецца на мяне, і сам не ведаю, за што, — гаворыць К.

Нашу гутарку перарываюць хворыя, якія вярнуліся з тэлевізіі.

Усе чакаем дня, калі можна наведваць хворых, гэта ж адзін з найлепшых і найпрыемнейшы дзён у бальнічным жыцці. Чакае і дзядуля, але да яго не прыходзіць ніхто. Адзін толькі раз паказалася жонка «тэхніка». Пасля гэтага дзед зноў не мог адхваліць нявесткі, сына, унукаў. Абяцала ж, што абавязкава прыйдзе і што нешта прынясе з ежы. Аднак да канца трохтыднёвага побыту ў бальніцы да дзядулі ніхто не прышоў і не запытаў пра здароўе бацькі.

— Але вам грошы то хіба прысылаюць? — пытаюся.

— Яны ўсе памятаюць аба мне, калі нешта трэба ад мяне. Ім хочацца, каб я прадаў зямлю і ім грошы параздаваў, але ніводзін не гаворыць, дзе і з чаго маю дажыць апошнія гады. А з другога боку, то гэтай зямлі ў Орлі няма каму купіць. Я ім памагаю колькі магу. Хоць бы і гэтаму тэхніку, калі перабіраўся да «блёку», то я і памог перавезціся і 1200 зл. даў, а так часам прыедзе і «татусю ці маеш 200 зл.» то даю.

Дзядуля ні на каго не злаваўся. Але адчувалася, што гэта вельмі перажываў.

Пры мне дзядулю выпісвалі з бальніцы. Перад адыходам яшчэ раз дакладна пералічыў, колькі злотых трэба заплаціць, і пасунуўся на ПКС. Не ведаю, як дайшоў да станцыі, усё ж за тры тыдні моцна аслаб.

Пасля гэтага мы доўга ацанялі сыноў, як людзей. Што сапраўды стала на перашкодзе сынам, каб наведаць старога, хворага бацьку? Ці можа гэта блёк і тэлевізар раздзялілі сына і бацьку? Выказванні былі розныя. Не стану іх расказваць. Думаю, што кожны з вас сам гэта найлепш ацэніць. Азірніся вакол сябе, дарагі чытач, а мо побач цябе ёсць такі тэхнік, які засланяецца living рознымі працамі, каб толькі не наведаць хворага бацьку?

**А. Лабановіч**

# Беларускі вечар у Браціславе

13 красавіка г.г. у сталіцы Славакіі Браціславе адбыўся «Вечар сучаснай беларускай літаратуры». З уводным словам аб сучаснай беларускай літаратуры выступіў прафесар пражскага ўніверсітэта Вацлаў Жыдліцкі. Затым адбыўся канцэрт беларускай песні ў выкананні Міхася Забэйды - Суміцкага. Спявак выканаў 12 песняў на словы беларускіх паэтаў (Купалы, Гурло, Русака, Багдановіча, Глебкі, Бядулі, Танка і Машары), а таксама 12 беларускіх народных песняў у апрацоўцы беларускіх кампазітараў (Туранкова, Грэчанінава, Пэка, Галкоўскага і Шчаглова). На гэтым вечары чэхаславацкія артысты чыталі таксама беларускія вершы і прозу. Вечар прайшоў з вялікім поспехам. Між іншым, Міхась Забэйда атрымаў запрашэнне і на наступны год. А мо так і ў нас падумаць аб падобных вечарах?

(Ювэ)

# СПАДЧЫНА БЕЛАРЛІТАРАТУРНАГА

**Складаны і звілісты быў шлях беларускай літаратуры. Як парасткі прабіваліся праз тоўстыя слаі чужога і наноснага, пакуль не набылі адменных рысаў, пакуль не закрасавалі спелай нівай. XIX стагоддзе ілюструе гэтыя працэсы. Арыгінальная беларуская творчасць выкоўвалася ў шчыльным сяброўстве з суседнімі — у тую пару высока ўжо развітымі — літаратурамі польскай і рускай. Лепшыя іх прадстаўнікі садзейнічалі часам у зараджэнні мастацкага слова на мове беларусаў, а разам з тым яны самыя імкнуліся засвоіць усё каштоўнейшае ад суседзяў і выявіць свае нацыянальныя асаблівасці ў літаратуры. «Творчае пабрацімства» Адама Мальдзіса — гэта сур'ёзнае даследванне беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей у XIX стагоддзі. Кніжка нядаўна з'явілася ў выданні Акадэміі Навук БССР і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы. Уяўляе сабою якраз ілюстрацыю зараджэння арыгінальнай творчасці на беларускай мове ў цесным пабрацімстве з творчасцю польскіх і т. зв. польска-беларускіх пісьменнікаў мінулага века. А. Мальдзіс, уласна кажучы, працягвае размову на гэтую тэму, распачатую ў першую чаргу беларускімі вучонымі Александровічам, Лойкам, Кісялёвым і іншымі. Ва ўступе аўтар адзначае ўклад у гэтую справу і польскіх даследчыкаў, паасобныя з якіх друкаваліся ў «Ніве». Варта падкрэсліць, што А. Мальдзіс неаднаразова паклікаецца на яе публікацыі. Разам з тым кніжка з'яўляецца выразным крокам наперад у вывучэнні ўзаемасувязей, таму што ўведзена тут у навуковае карыстанне новыя архіўныя матэрыялы, пачэрпнутыя аўтарам непасрэдна з польскіх крыніц у час яго нядаўняй пабыўкі ў Варшаве, Кракаве і Познані.**

**А. Мальдзіс шчыра піша аб цяжкасцях у вывучэнні пытання беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей. Той, у прыватнасці, факт, што ў XIX ст. складвалася беларуская нацыя, што многія паняцці яшчэ толькі крышталі-**



 

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ГАЙНАЎСКАЯ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

Ва ўсім свеце гадуецца 2 мільярды галоў буйнай рагатай жывёлы, у Польшчы — каля паўтара дзесятка мільёнаў, на Беласточчыне — больш 600 тыс. штук. Але нельга параўноўваць колькасці. Адна карова дасць у год 7,8 або 9 тысяч літраў малака, а іншая толькі тысячу літраў. Ёсць беластоцкія ПГР-ы, дзе надойваюць да 4 тыс. літраў ад каровы, але ў некаторых індывідуальных гаспадарках па 1000 літраў у год.

Чаму такая розніца? Гэтае пытанне ставяць перад сабой таксама і гайнаўскія сяляне і дзеячы. Ці толькі справа ў дрэнным кармленні? Здаецца, што не. Можа не хапае заатэхнічных ведаў? Часткова так, але гэта не галоўная прычына. А ў чым жа прычына? Нашы каровы невыбрэдныя, хваробаўстойлівыя, не баяцца марозаў, але якасць іх не найлепшая. Проста прыроджаныя рысы нашых кароў не даюць магчымасці дабіцца лепшай малочнасці.

Гайнаўскія каровы — гэта не выключэнне ані ў добрага, ані ў дрэннага. Сяляне гадуюць чырвоную польскую пароду. Сам гэты факт не змяншае шанцаў. Істота справы толькі ў тым, што мала працуем над паляпшэннем якасці пагалоўя. Не думаем цяпер пабіваць рэкорды краіны ці нейкай рэвалюцыі. Добра было б давесці надой малака да такой колькасці, каб жывёлагадоўля вельмі аплачвалася. А гэта будзе толькі тады, калі нашы каровы ў сярэднім будуць даваць больш 3 тыс. літраў малака ў год.

У жывёлагадоўлі не бывае раптоўных скокаў. Гэта павольная праца, доўгая і адказная. У многіх перадавых краінах праца над паляпшэннем якасці кароў цягнулася дзесяткі гадоў і далей яшчэ працягваецца. Розніца заключаецца ў тым, што дабіцца падвышкі надояў на 500 літраў лягчэй пры надоях, 1800 літраў у год, чым пры 400 літрах. Добрая праца ў беластоцкіх ПГР-ах дазволіла толькі за апошні год павялічыць надоі малака ад адной каровы па 330 літраў у год.

У Новаберазове нядаўна арганізавалася дзяржаўная гаспадарка, але там пяршаткі чырвонай польскай пароды даюць па 14—15 літраў малака ў дзень.

Гэтыя прыклады гавораць аб тым, што можна даволі хутка бачыць узрост малочнасці кароў. Для гэтага трэба мець добрых расплоднікаў. Бугаі, якія паходзяць ад акроў з надоямі больш 5 тыс. літраў малака і з 4,4% тлушчу значна папраўляюць якасць кароў і даюць гарантыю добрай якасці пагалоўя.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

# У нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

26 красавіка г. г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. У парадку дня стаяла пытанне прадуктывізацыі і пасялення цыганскага насельніцтва на Беласточчыне. Адзначаліся спрыяльныя ўмовы, якія стварылі ўлады для нармальнага, аселага жыцця і працы цыганоў. Між іншым, дзейнічае пры ПВРН Ваяводскі калектыў да каардынацыі цэласцю прац на адрэзку прадуктывізацыі і пасялення цыганоў. Аднак, адзначалі члены Камісіі, поўная стабілізацыя жыцця цыганоў будзе залежаць ад правільных, добрасуседскіх адносін грамадства да цыганоў. Таму важную ролю ў гэтым пытанні павінны адыграць грамадскія арганізацыі. На гэтым пасяджэнні былі таксама прыняты пастановы адносна развіцця чытальніцтва і працы бібліятэк у нацыянальна-меншасных асяроддзях (як мы інфармавалі раней, на папярэднім пасяджэнні Камісіі была паклікана група таварышаў да падрыхтоўкі прапаноў). Прапановы ідуць у напрамку поўнага абяспечання насельніцтва нацыянальных меншасцей літаратурай на роднай мове. (рл)

(Працяг са стар 2)

# З БССР

недалёкай будучыні паўстане ў Беларусі новая галіна прамысловасці — каменнавугальная. У раёне Турава ўстаноўлена выступанне сланцаў — якія могуць быць каштоўнай сыравінай для хімічнай прамысловасці.

У апошнія гады праводзяцца на тэрыторыі Беларусі інтэнсіўныя пошукі **жалезнай руды.** Невялікія, пакуль што, месцанараджэнні высокаякаснай руды — магнетыта, былі знойдзены ў Гродзенскай вобласці. Геолагі лічаць, што жалезныя руды выступаюць таксама на ўсходзе Беларусі.

На тэрыторыі Беларускай ССР выступаюць таксама іншыя мінеральныя выкапні, якія маюць вялікае значэнне для прамысловасці. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць гліны, каолін, пяскі, гравій, камень, фасфарыты, мінеральныя воды і іншыя. У вялікіх колькасцях выступае тут торф, які да адкрыцця нафты быў найважнейшай мясцовай энергетычнай сыравінай.

Настойлівыя даследванні нетраў Беларусі праводзяцца далей. Трэба спадзявацца, што рэзультатам іх будзе адкрыццё новых багаццяў беларускай зямлі.

**Юры Туронак**

# УСКА-ПОЛЬСКАГА СЯБРОЎСТВА

**заваліся і ўскладняе на думку даследчыка цэлую задачу.**

**У кніжцы разглядаецца характар тагачаснай польскай літаратуры, абмяркоўваюцца яе кірункі і плыні. І гэта добра. Урэшце без належнага знаёмства з ёю нельга зразумець асаблівасцей беларускай творчасці таго часу, калі ўлічым, што ўдзельнічалі ў ёй або ў найлепшым выпадку садзейнічалі прадстаўнікі польскага грамадства ці апалячаная беларуская шляхта. А. Мальдзіс успамінае аб двумоўнасці беларускай літаратуры — гэтай яе характэрнай рысе ў XIX ст., якая таксама ўскладняе задачу. Ускладняе, адзначае даследчык, і залішне скромны яшчэ матэрыял, якім дыспануюць вучоныя. І таму патрэбныя тут калектыўныя намаганні — беларускіх і польскіх літаратурназнаўцаў, неабходнае знаёмства з асноўнымі сродкамі шматлікіх беларускіх і зарубежных архіваў. А. Мальдзіс паказвае нам творчыя дасягненні Дуніна-Марцінкевіча, Чачота, Баршчэўскага, Рыпінскага, піша з якой яскравасцю ў іх літаратурнай спадчыне праявіўся ўплыў польскай братняй літаратуры. Разам з тым абвяргае ўстарэлыя погляды і з болшай асцярожнасцю ставіцца да пасобных фактаў, пазбываючыся вульгарнага сацыялагізма, які шкодзіў у мінулым справе вывучэння ўзаемасувязей.**

**Каштоўным здабыткам кніжкі з'яўляецца раздзел, азагалоўлены «Напярэдадні паўстання»; маецца, зразумела, на ўвазе 1863 год. Аўтар знаёміць чытача з плынямі польскай грамадскай думкі ў той цікавы перыяд і з яе ўздзеяннем на характар беларускай літаратурнай творчасці. Урэшце, шмат у працы Мальдзіса разважанняў, новых, свежых думак і асноўнае — няма ў ёй прэтэнзій на неабвяргальныя погляды, няма штампаў.**

**«Творчае пабрацімства» працягваючы размову аб беларуска-польскіх узаемаадносінах у літаратуры разам з тым ставіць рад праблем і запрашае да іх абмяркоўвання, дзе факты і толькі яны маюць належнае значэнне.**

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

# Дзеячы культуры

Іх прозвішчы ўвойдуць у гісторыю беластоцкай культуры. Папрацавалі для яе многа, паціху, цярпліва. У гэты святочны дзень — 15 мая — Дзень Дзеяча Культуры, аддаем ім належнае.

**АРЦЁМ ЧЫКВІН** — кіраўнік Бельскай павятовай бібліятэкі. У бібліятэкарстве працуе ад 1953 года. Яго заслуга — разбудова і развіццё бібліятэк у Бельскім павеце. Яго заслуга, што Бельскі павет займае віднае месца ў беларускім чытальніцтве. Адданы прыяцель кніжкі і чытача.

**СЯРГЕЙ ФІЛІПЮК** — праслаўлены настаўнік з Паўлаў, ініцыятар і арганізатар шырокага культурнага руху ў вёсцы. Верны беларускай тэме ў культурнай дзейнасці.

**АЛЯКСЕЙ ГРЫГАРУК** — кіраўнік святліцы і бібліятэкар з Дубін. Спраўны арганізатар асветных вечарын, паўшэхнага універсітэта, грамадскіх чынаў. Беларуская тэматыка займае многа месца ў яго працы.

**ГЕНРЫКА КУЛЬЧАКЕВІЧ** — настаўніца з Чыжоў, па нацыянальнасці полька, працуючы ў беларускім асяроддзі мае сардэчныя адносіны да беларускай народнай культуры. Ад 15 год гуртуе вакол сябе перадавую моладзь вялікай вёскі. Яе калектывы — харавы і танцавальны — з'ездзілі кусок свету з добрым рэпертуарам.

**РАСЦІСЛАЎ МІСЕЮК** — кіраўнік бібліятэкі з Кляшчэль. Пры ёй вядзе секцыі: асветную, гаспадарчую, санітарную, тэхнічную, літаратурную. Жывое слова прапагуе ў рэцытатарскім гуртку пры мясцовай сельскагаспадарчай школе. Працуе з тэатральным гуртком у мястэчку.

**ПЁТР НЯВІНСКІ** — музычны інструктар з Бельска, правандраваў увесь павет навучаючы сваёй музе. Яго тварэнне — музычны калектыў у Піліках.

**ЮРЫЙ МАРАЗОЎСКІ** — ад імя сельскагаспадарчых гурткоў у Сямяцічах прапагуе на вёсцы асвету і культуру. Арганізуе экскурсіі, гутаркі пры тэлевізары, вядзе асветнае навучанне ў 70 ПР-ах. Ініцыятар грамадскіх чынаў пры будове школ. (вл)

# Каму аўтатранспарт

Кантролю над аўтатранспартам у нас праводзяць аддзелы камунікацыі. А ёсць што кантраляваць. У адным толькі Бельскім павеце зарэгістравана каля 5 тысяч самаходаў, трактараў і матацыклаў (падаем прыблізна, таму што даныя змяняюцца з дня на дзень). Выразна пабольшваецца колькасць прыватных самаходаў. Лікі гэтыя ўзрастаюць часам больш як у два разы. Напрыклад, грузавікоў у 1964 г. было два, ў 1965 — 4, а легкавых прыватных машын за год прыбыло 46 і ў канцы 1965 г. было іх 81. Выразна павялічваецца колькасць трактараў у сельскагаспадарчых гуртках. І так, 73 гурткі мае больш 180 трактараў.

З прыватным аўтатранспартам кантроля спецыяльных клопатаў не мае, але з дзяржаўным або грамадскім часам аж валасы «дыба стаюць». Шафёры і дыспазітары часта ўжываюць яго нязгодна з правіламі і... не там, дзе трэба. Аддзел камунікацыі ў Бельску мяркуе, што 70—80% дастаўляемага гравію і пяску на прыватныя будовы давозяць шафёры «службовымі» самаходамі, бензінам, а нярэдка і дзяржаўны матэрыял.

Не лепш, толькі тут менш кантралююць, выглядае справа ў сельгасгуртках. Часта здараецца, што трактарыстамі з'яўляюцца прыпадковыя людзі, якія абсалютна не дбаюць пра трактары, не кансервуюць іх і не чысцяць. Напрыклад, у Зубаве трактарыст праз нядбайнасць так сапсаваў трактар, што за яго рамонт трэба было заплаціць (з касы гуртка) некалькі тысяч злотых. Паколькі кантроль тут у асноўным грмадскі, тут часцей як дзе здараюцца «левыя курсы».

А гэта ўсё можна назваць не інакш як акраданнем дзяржавы і грамадства. Цешыць нас, што Бельскі Аддзел камунікацыі бачыць гэтыя справы. Цікава толькі, якія меры прыйме для гэтай формы злачынства. (ал)

У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ

# Крушынянскія нарадзіны

На сыпкіх пясках Сакольскай Зямлі селі Крушыняны — вёска гістарычная і этнаграфічная. Аб адным і другім гаворыцца ў сувязі з прысутнасцю тут татараў і іх слаўнай забытковай святыні. Да гэтых фактаў усе прызвычаіліся. А вось... Старыя Крушыняны паказалі і новае сваё аблічча. Я гавару аб Крушынянах, якія паставілі беларускую п'есу і паставілі яе так добра, што аж радасць бярэ!

На аглядзе ў Беластоку велізарны кусок сардэчнай сімпатыі гледачоў быў на баку Крушынян. Мне самой якраз Крушыняны найглыбей запалі ў сэрца. Вельмі ж беларускія былі гэтыя людзі! З якім адданнем яны выконвалі свае ролі.

У сцэне бойкі (ставілі п'есу «Боты») не лічыліся са сваімі касцьмі: грукаліся аб голую падлогу, што страшна было глядзець, але эфект сапраўды рэалістычны. «Боты» — аднаактоўка без асобых вартасцей. Самі Крушыняны гэта разумелі, але нялёгка з беларускім рэпертуарам, і толькі таму вымушаны людзі браць, што ёсць. Лепшым бокам «Ботаў» — частыя прыпеўкі ў іх, якіх пераважна не заўважаем, бо іх ніхто не спявае, няма мелодыі, нот.

Крушыняны і тут паказалі свае пясьнярскія здольнасці. Прыпеўкі не дэкламавалі (за выключэннем адной), а спявалі. На вядомыя мелодыі, як хто ўмеў. «Боты» тады, у крушынянскім выданні, маюць характар вадэвілю, і як такія больш спраўныя для сучаснасці.

Крушыняны задэманстравалі нам добрую вымову слоў, добрае апанаванне роляў і мілую беларускую сакольскую мову.

Нараджэнне духа непакою — нараджэнне калектыву ў Крушынянах лічу дасягненнем усёй гэтай вёскі. Такі пачатак. А як далей? Адкажуць крушынянцы. Іх адказ знойдзе заўсёды месца ў «Ніве».

Асабіста, хацела б убачыць, як за Крушынянамі рушаць іншыя вёскі, якія расселіся на сакольскіх узгорках і ў далінах, як на спакойнай наогул Сакольшчыне забурліць творчы неспакой... Зайшла я амаль у паэзію. Гэта Крушыняны мяне ўзрушылі.

Падаю яшчэ людзей з калектыву, герояў артыкула: Кірыл Авечка, Кастусь Макаль, Балеслаў Эйсмант, Анатоль Макаль, Ядвіга Макаль. Кіраўнікамі калектыву былі ад пачатку настаўнікі: Лідзія Крушэль і Раман Талькоўскі.



На здымку: Кірыл Авечка і Кастусь Макаль у «Ботах».

**Вера Леўчук**

Фота **С. Грынявіцкі**

# ТРЫБУНА чытачоў

### ПРЫЦІХ ГАРАДОК

У 17 (530) нумары «Нівы» быў апублікаваны цікавы артыкул «10 мінут» Ул. Паўлючука.

Я чытаю «Ніву» заўсёды, можа не так дакладна ўсе старонкі, але стараюся вылавіць цікавейшыя справы, якіх хапае. Быць сярод гэтага натоўпу часта, аб якім піша Ул. Паўлючук, і слухаць яго хвалюючых спраў, можна толькі тады належна зразумець некаторыя праблемы Гарадка. У Гарадку няма сярэдніх і завадовых школ. Просты чорнарабочы вымушаны шукаць работы ў большым горадзе, бо ў Гарадку — не хапае месц працы. Тыя, хто паканчаў сярэднія школы, таксама не знойдуць працы ў Гарадку.

Збіраецца іх многа і ў 6.15, і ў 4.30, калі адыходзіць першы цягнік у Беласток.

Гэта не вельмі прыемна ўставаць штодзень так рана і «тупаць» 2 ці 3 кіламетры ў Валілы. Быць сярод гэтых людзей, ведаць іх штодзённыя клопаты, гэта не тое, што паслухаць аб іх 10 мінут на станцыі Валілы.

Гарадок, гэты славуты Гарадок з даўнейшых часоў, цяпер прымоўк. Мястэчка, у якім шмат беларусаў, у апошнія часы зышло непрыкметна з арэны. Жыццё гэтых людзей павінна больш цікавіць і «Ніву» і ГП БГКТ у Беластоку. Чаму тут так прыціхла, што можна зрабіць у далейшым, каб зноў было бурна і весела, каб зноў адклікнуўся гарадоцкі беларус, гэта праблема напэўна павінна адбіцца і ў нашым часопісе і сярод гэтых радавітых беларусаў.

**Вечаслаў Савіцкі**
Гарадок

### ТЭЛЕБАЧАННЕ І КІНО

Гурток БГКТ у Паўлах шырока выкарыстоўвае ў сваёй дзейнасці тэлебачанне і фільм. Усё гэта знаходзіцца ў школе, а куплены яны былі год таму назад за атрыманую грашовую ўзнагароду ў конкурсе «Вёска бліжэй тэатра», аб чым ужо пісалася ў «Ніве». З самага пачатку агляданне праграмы ў тэлебачанні адбывалася стыхійна. Людзі прыходзілі ў школу, займалі месца ў парце і без перапынку аглядалі праграму ад 16 да 22 і 23 гадзіны, пакуль настаўнік не выключаў тэлевізара. Хутка аднак людзі нацешыліся такім аглядданнем тэлебачання. Пачалі з шырокай праграмы выбіраць тыя перадачы, якія іх найбольш цікавілі. І зараз сітуацыя выглядае так: утварыліся пастаянныя, даволі вялікія групы гледачоў: адны з іх сістэматычна аглядаюць апошнія паведамленні, другія тэатр, трэція фільм, а яшчэ іншыя забаўную праграму.

У арганізацыйныя рамы ўзяў гурток БГКТ агляданне тэатра. Утварылася група любіцеляў гэтай перадачы. Члены гэтай групы ў асноўным сістэматычна аглядаюць тэатральныя перадачы, пільна слухаюць уступнае слова, а калі спектакль быў цікавы і выклікаў у гледачоў нейкія пытанні, праводзяцца над ім спрэчкі.

Вялікаю папулярнасцю ў вёсцы цешыцца фільм. Гурток БГКТ на працягу апошніх 6 месяцаў высветліў уласнай апаратурай чатыры мастацкія фільмы («Майн Кампф», «Аповесць аб праўдзівым чалавеку», «Балада аб салдаце», «Жыццё Адольфа Гітлера») і некалькі дзесяткаў папулярна-навуковых фільмаў. Фільмы пазычаем у «Фільмасе», які мае багатую фільматэку, асабліва папулярна-навуковых фільмаў.

Можна пры гуртку БГКТ і пры іншых культурна-асветных установах утварыць сталыя пункты для дэманстрацыі папулярна-навуковых фільмаў. Такія пункты называюцца кіно «Веды». Адрозніваюцца дзве арганізацыйныя формы такіх кіно: першая — гэта камерцыйнае кіно, другая — грамадскае кіно. У грамадскім кіно гледачы карыстаюць бясплатна з сеансаў папулярна-навуковых фільмаў, а ў кіно камерцыйных уваход на сеансы платны па 2 зл. ад асобы.

Пры нашым гуртку існуе грамадскае кіно, гледачы не плацяць за ўступ. Папулярна-навуковыя фільмы мы часта выкарыстоўваем на розных вечарынках, акадэміях і як навуковыя дапаможнікі да дакладаў. Пры падборцы фільмаў кіруемся іх тэматыкай і ідэйна-мастацкімі вартасцямі. Усе мерапрыемствы, у час якіх высвятляецца фільм, цешацца ў нашай вёсцы вялікай папулярнасцю, так што заўсёды зала бывае перапоўнена.

**С. Філіпюк**
Паўлы

### ДА ЧЫТАЧОЎ

У «Ніву» чытачы часта прысылаюць матэрыялы з просьбай, каб іх надрукаваць у трыбуне чытачоў. Шмат ёсць матэрыялаў прыдатных да друку, але, на жаль, яны не падпісаны. Аўтары гэтых матэрыялаў не падалі сваіх імён, прозвішчаў і адрасоў. Не падпісаных матэрыялаў (гэта значыць ананімных) рэдакцыя наша не друкуе.

Штопраўда, ёсць у «Ніве» інфармацыі падпісаныя ўмоўным прозвішчам (псеўданімам). Гэта робіцца па просьбе аўтара, але рэдакцыя ведае яго прозвішча і адрас.

Такім чынам просім чытачоў, якія прысылаюць інфармацыі і артыкулы, падпісваць сваім прозвішчам і падаваць адрас.

Патрэбна гэта яшчэ і таму, што рэдакцыя плаціць карэспандэнтам за апублікаваныя матэрыялы.




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Мне 18 год. Хоць я нарадзілася на вёсцы і маю там сваіх бацькоў, аднак больш жыву ў горадзе. Я канчаю матуру. Выбіраюся вучыцца далей. Я ўжо склала прашэнне ў Варшаўскі ўніверсітэт. А цяпер не ведаю, што рабіць, ці прыступаць да экзаменаў, ці не. Ужо два гады, як я сябрую з Валодзем з нашага класа. Валодзя выбіраецца на Палітэхніку, але не ў Варшаве, а ў другім горадзе. Мы кахаем адзін аднаго і нядаўна пастанавілі, што і на студыях будзем разам. Аднак запозна падумалі. Я выбралася на філалогію. І цяпер Валодзя мяне намаўляе, каб я ў гэтым годзе не прыступала да экзаменаў, а на другі год паступіла на Палітэхніку, каб вучыцца нават у адной навучальнай установе. Што рабіць, не ведаю.

**ЛІЗА**
з Беластока

Дарагая Ліза!
Хоць ты і кахаеш Валодзю, аднак не павінна ты зрабіць гэтага, што ён табе прапануе. Калі вы кахаецеся, дык нічога не стаіць на перашкодзе, калі будзеце вучыцца ў іншых гарадах. Тым лепш, бо больш будзеце мець часу на навуку. Навука — гэта ж не забава. Таму тут падвойная будзе карысць: і навука будзе лепш ісці і пераканаецеся, ці ваша каханне сапраўднае, не памылковае, якое бывае вельмі часта ў такіх маладых людзей. Па-трэцяе, ты ж маеш зусім іншыя зацікаўленні і здольнасці. Таму абсалютна не можна ж ісці вучыцца там, дзе не толькі ты гэтага не любіш, але і не вядома, ці здолееш вучыцца. Таму раю табе прыступіць да экзаменаў і жадаю поспехаў.

**СЭРЦАЙКА**

### НА СЦЭНЕ Ў СУСЕДЗЯЎ

Ляшуцкі драмгурток, які выступае з трыма аднаактавымі п'есамі: «Муж разява», «Соль» і «Пярэстая красуля», выступіў паспяхова ў сваёй вёсцы і ў суседняй — Старым Ляўкове. Мае ён запрашэнне на выступленне ў нараўскай святліцы (пры чыгунцы).

Пастанавілі мы развучыць новую п'есу пад загалоўкам «Гарадскія госці» Алеся Барскага.

**Яўгень Рэент**

### ЮБІЛЕЙНЫ ЧЫН

У Агародніках таксама як і ў другіх вёсках штогод падымаюць дарожныя чыны. І так, для адзначэння Тысячагоддзя Польскай дзяржавы і 1 Мая жыхары Агароднік забавязаліся наладзіць дарогу з Агароднікаў да Белак. Па ініцыятыве сялян з Агароднік ужо раней была пабудавана жвіравая дарога Агароднікі — Нарва. Жыхары гэтай вёскі спадзяюцца, што на свята Адраджэння Польскай Народнай Дзяржавы па новапабудаванай жвіравой дарозе прыедзе да іх першы аўтобус ПКС-у. Да найбольш актыўных дзеячаў у вёсцы, якія з'яўляюцца арганізатарамі грамадскіх чынаў, залічаюцца: Павел Карповіч, Яўген Стэпанюк, Яўген Садоўскі і солтыс Мікола Леановіч.

**Ярош**
в. Белкі



**Сяргей Сахарчук з вёскі Спічкі прывёз на школьны пляц камень, які выкарыстаецца на фундамент.**

### СУПОЛЬНЫМІ СІЛАМІ

Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску не мае гаспадарчага будынка. У сувязі з гэтым бацькоўскі камітэт супольна з дырэкцыяй школы звярнуліся да бацькоў, якіх дзеці вучацца ў ліцэі, каб грамадска пабудаваць гаспадарчы будынак, у якім таксама было б памяшканне майстэрняў для практычных заняткаў. На бацькоўскім сходзе бацькі ліцэістаў забавязаліся давезці па адным кубаметры камення або ўнесці замест давозу камення адпаведную грашовую суму. Вартасць задэклараванай бацькамі грамадскай працы камення і жвіру складае 280 тыс. зл. Зараз пасля сходу на камітэт будовы праз бацькоўскі камітэт было пераказана 45 тыс. зл. 3 тысячы злотых пераказала школьная моладзь. На пляц будовы ўжо прывезена больш 20 кубаметраў камення. У гэтым годзе звязецца матэрыял і зробіцца дакументацыю, а ў наступным годзе пачнецца будова гаспадарчага будынка.

**Павал Зінкевіч**
Бельск

### ПЕДАГАГІЧНЫ ЛІЦЭЙ

Педагагічны ліцэй у Бельску Падляшскім, гэта адзіны ў Польшчы, у якім вывучаецца беларуская мова. У школе ёсць па два паралельныя класы, напрыклад: I «а» і I «б». У класе «а» вучацца палякі, у класе «б» беларусы. Нягледзячы на гэта ў школе пануе згода і добрая атмасфера.

Пасля заканчэння ліцэя беларусы пойдуць вучыць роднай мовы дзяцей у беларускіх вёсках.

**Рыгор Дзякевіч**
Бельск

### ВАСІЛЬ ЯНЦЭВІЧ

Пісьманосцам нашым з'яўляецца Вася Янцэвіч. Працуе ён ужо на гэтай пасадзе 3 гады. Васіль заўсёды разносіць газеты і часопісы. Ад таго часу, калі Вася пачаў працаваць пісьманосцам, павялічылася колькасць падпісчыкаў на «Ніву». Васіль знаёміць жыхараў аб тым, што пішацца ў «Ніве» аб жыцці ў нашых беларускіх вёсках.

**Янка Грамадскі**
Чыжы

„Ніва"—у кожнай беларускай сям'і.

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 290 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 430 | 400 | 370 |
| яйкі | 1 шт. | 1,30 | 1,25 | 1,25 |
| масла | кг | 60 | 50 | 60 |
| ялавічына | кг | — | — | — |
| свініна | кг | 38 | 36 | 35 |
| сала | кг | 33 | — | 35 |
| бульба | цэнт. | 150 | 100 | 110 |
| цыбуля | кг | 5 | 3 | 3 |
| капуста | кг | — | — | — |
| морква | кг | 2 | 2 | 2 |
| буракі | кг | 2,25 | 2 | 2 |
| сена | цэнт. | 120 | — | 120 |

Увага! знак «—» абазначае, што гэтага прадукту не было на кірмашы.

# КІНО

Праграма
на 17—22. V. 1966 г.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Podróż nie z tej ziemi" (jugosłowiański), 17—18. „Miłość jednej nocy" (radz.), 19—20. „Troje i las" (polski), 21—22.

**Кляшчэлі**
„Droga przez cmentarz" (radziecki), 17—18. „Człowiek z przeszłością" (radziecki), 19—20. „Małpia kuracja" (USA), 21—22

**Дубіны**
„Człowiek, który zabił Liberty Valanca" (USA), „Wojna trwa" (USA), 21—22.

**Нарва**
„Późne popołudnie" (polski), „Człowiek, I-ego stulecia" (czeski), 18—22.

**Нараўка**
„Okres próbny" (radz.), „Obca krew" (radz.), 18—22.

**Чыжы**
„Casar.owa znad Dunaju" (węgierski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 18—22.

**Дубічы Царкоўныя**
„Gładka skóra" (franc.), „Biały szejk" (włoski), 18—22.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Daleka jest droga" (polski) „Skarb" (polski), 18—22.

**Орля**
„Nieznajomi z pociągu" (USA), „Niewidomy muzyk" (radziecki), 18—22.

**Райск**
„Człowiek z fotografii" (jugosłowiański), „Drewniany różaniec" (polski), 18—22.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Dworek 4-ch dziewcząt" (węgierski), „Przybycie tytanów" (USA), 18—22.

**Міхалова**
„Mezalians" (węgierski), 17—18. „Zarezerwowane dla śmierci" (NRD), 19—20. „Dni grozy i śmiechu" (USA), 21—22.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Нурэц**
„Kosmos wzywa" (radz.), 17—18. „Trzy kroki po ziemi" (polski), 19—20. „Ranny w lesie" (polski), 21—22.

**Мілейчыцы**
„Król strzelców" (czeski), 17—18. „20 godzin" (radz.), 19—20. „Ranny w lesie" (polski), 21—22.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Trzy życzenia" (czeski), 17—18. „Syn skazańca" (angl.), 19—20. „Mam 20 lat" (radz.), 21—22.

**Шудзялава**
„O życie dla Ruth" (franc.). „Ostatni świadek" (NRF), 18—22.

**Сідра**
„Przyroda i my" (radz.), 17—18. „Małpia kuracja" (USA), 19—20. „Obrońca z urzędu" (angielski), 21—22.

**Сухаволя**
„Obok prawdy" (polski), „Mandacik proszę" (włoski), 18—22.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Новы Двор**
„Ostrożnie babciu" (radz.), „Bracia" (czeski), 21—22.
„Święta wojna" (polski), „Kapral i inni" (węgierski). 14—15.

**Ліпск**
„Noc poślubna" (polski, „Znowu Max Linder" (franc., 21—22.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA. Nakład 5458. Błtk D-3

# НІЎКА

## У ГАСПОДЗЕ

Аднойчы двое непісьменных зайшлі ў гасподу з'есці абед. Селі яны за стол. На стале ляжала меню. Прагледзелі яны яго, але нічога не маглі выбраць, бо не ўмелі чытаць. Як назваць фахова якую-небудзь страву, таксама не ведалі, але не хацелі выдаць сябе за наведаючых. Тады сядзелі і маўчалі. Ажно падыходзіць да іх афіцыянтка і пытаецца, што яны хочуць з'есці. Глянулі сябры адзін на другога, і адзін з іх кажа:

— А, першае лепшае!

Якраз у меню ў першую чаргу значыліся дадаткі. Пад першым нумарам стаяла смажаная морква.

Афіцыянтка прынесла ім па порцыі смажанай морквы. З'елі яны гэтыя порцыі, аднак не пад'елі. Сядзяць далей, разглядаюцца. А людзей навокал многа. Усе ядуць смачныя мясныя порцыі, а яны толькі слінку коўкаюць. Пры суседнім століку сядзяць двое мужчын і ядуць адбіўныя катлеты. Нашыя сябры таксама хацелі б з'есці гэту катлету, але не ведаюць, як яна называецца. Але мужчыны пры суседнім століку з'елі свае катлеты, паклікалі афіцыянтку і сказалі: — Яшчэ раз гэтае самае.

Афіцыянтка прынесла суседзям зноў па порцыі адбіўных катлет.

Тады адзін з нашых сябраў штурхае пад бок другога і гаворыць: — Будзем жыць. Я ўжо ведаю, як называецца тое, што ядуць пры суседнім століку. Называецца яно «гэтае самае».

Падыходзіць да іх афіцыянтка і пытаецца, што яны яшчэ хочуць з'есці. Тады адзін з іх гаворыць: — Гэтае самае. Афіцыянтка ізноў прынесла ім па порцыі смажанай морквы. З'елі яны гэту морквы, заплацілі і галодныя выйшлі з гасподы.

*Я. СТРАВА*

---

*Кур'ёзы*

### ЗБАВІЦЕЛЬНАЕ ПРОЗВІШЧА

*Суддзя Буці з Клійленда (ЗША) судзіў за валацужніцтва нейкага Марлона Сніці. На судзе высветлілася, што валацуга быў ужо дваццаць сем разоў затрыманы паліцыяй, але кожны раз яго адпускалі. На пытанне суддзі аб прычынах такіх гуманных да яго адносін, Марлон адказаў: «З-за майго прозвішча. Ведаеце, паліцыянтам лягчэй было мяне адпусціць, чым запісваць маё сапраўднае прозвішча: «Woopechharsonnkeller».*

Зм. Ш-ка

### КОРАК

«Каб мяне не было, то, напэўна б, усё віно з бутэлькі вылілася і свет затапіла», — думае Корак, моцна трымаючыся за бутэльку. Раптам... Моцны штуршок — і Корак ляціць да столі, а потым закачваецца ў куток. Віно ж, выраўшыся на волю, упрыгожвае святочны стол.

### АТРЫМАЛІ

Сустракае Муха трох знаёмых Камароў. А іх і пазнаць нельга: насы абгарэлі, твары перапэцканы, ногі забінтаваны...

— Што з вамі? Хто вас так пакалечыў? — жахнулася яна. — Ат, не пытайся. Хацелі светлячка аграбіць, ды на недакурак напароліся.

## ЗМАГАР

Настырны і нахрапісты Аўдзей
У аўтабіяграфіі быў сціплы
не па духу
І скромна запісаў:
«У час вайны прымаў удзел
У падпольным руху».

А які ўдзел? А пра што размова?
А пра гэта — ані слова.
Аказваецца ж, ён,
як і заўсёды, у цэлым,
Тут праўду біў, нібы тупым калом:
Так, так, падпольным быў ён,
можна верыць смела,
Бо ўсе гады, пакуль вайна грымела,
Аўдзей хаваўся
пад палом!..

КАСТУСЬ КІРЭЕНКА



Усё людское нам не чужое.



— От, добра, што зайшла — раскажаш свежыя навіны.

### НЕ ДЛЯ КОЖНАГА

У аўтобусе маленькая дзяўчынка безупынна шморгае носам. — Слухай, дзяўчатка, — узлавана пытае ў яе жанчына. — У цябе часам няма насавой хусткі?

— Ёсць, — адказвае дзяўчынка, — але я яе не даю кожнаму.

### ВЫКРУЦІЎСЯ

— Ты будзеш есці ўчарашні крупнік?

— Буду.

— Ну, дык тады прыходзь заўтра.




На пытанне «Што зрабіў бы ты, калі б у цябе выраслі крылы?», пяць чалавек адказалі:

— Прадаў бы веласіпед.

### У ВЕТЭРЫНАРА

Маладая жанчына прыйшла да ветэрынарнага доктара і пытаецца:

— Ці трэба распрануцца?

— Я не лечу людзей, толькі жывёлу...

— Якую, напрыклад?

— Кароў, авечак, свіней...

— То ж мой муж, Хвёдар, заўсёды на мяне крычыць у злосці: «Ты, старая карова!!»

*Васілеўскі з Глівіц*

### ЗАПЫТАННЕ

Заўважыўшы на бацькавым ілбе маршчыны, Тома сказала:

— Татка, хутка і ты станеш бабулькаю.

### НЕ ЎСЁ ЯШЧЭ

Аднаго разу прыходзіць п'яны муж дамоў. Жонка, глянуўшы на яго, спытала:

— Ты ўжо, напэўна, і розум прапіў?

— Ды не, д-д-даражэнькая, толькі грошы.




Вось чаму мужчыны любяць хадзіць на футбол.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Елі, Марысі, Алі і Ромка з Гайнаўскага павета і Юрка Кардаша з калёніі Глейск каля Гарадка, Беластоцкага павета, змяшчаем польскую песню п. з.

## TO NIE GRZECH

Osiemnaście mieć lat — to nie grzech.
Umieć głośno się śmiać — to nie grzech.
Nie możemy, jak wy
mówić światu na ty
no i czekać! Dobrze jest!
Nie przejmować się.
Nie mam Fiata i też — to nie grzech — no nie?
Nie mam forsy na gest — to nie grzech.
Co mi Fiat, co mi gest
wolę taniec i śpiew,
no i cześć! Dobrze jest! To nie grzech.

Śpiewać chcę cały dzień — to nie grzech.
I całować się chcę — to nie grzech.
Dobrze jest młodym być,
kochać, marzyć i śnić,
zawsze śmiać się na głos
życiu prosto w nos.
Tańczyć chcę cały dzień — to nie grzech.
Wszystkim się cieszyć chcę — to nie grzech — no nie?
Dobrze jest kochać świat
osiemnaście mieć lat,
no i cześć! Dobrze jest! To nie grzech.
Osiemnaście mieć lat — to nie grzech.
Wolną drogę do gwiazd — to nie grzech.
Kto potrafi jak my
mówić gwiazdom na ty?
No i cześć, dobrze jest,
nie przechwalać się.
Radość jak kwiaty rwać — to nie grzech.
Umieć głośno się śmiać — to nie grzech — no nie?
Nieść piosenkę do gwiazd
osiemnaście mieć lat,
to nie grzech! To nie grzech! To nie grzech!